

# Зялёнка

*Незалежнае маладзёвае выданьне* № 5 верасень 2000



## *Чаму нашая будучыня залежыць ад хворых пэнсыянэраў?!*

Як вядома, пэнсыянэры ў Беларусі складаюць асноўную палітычную сілу. Менавіта на гэты кантыгент грамадзтва арыентуецца сучасная ўлада. Практычна ўсю інфармацыю пэнсыянэры атрымліваюць зь дзяржаўных СМІ. Ім падабаецца ўсё тое, што й уладам, і наадварот. У сваёй большасьці яны вырашаюць, хто ў нас будзе прэзыдэнтам, хто будзе займаць пасады ў парляманце й г.д. Але сярод іх, ня ў крыўду будзе сказана, шмат разумова хворых. Мы ўсе калі-небудзь станем старымі, магчыма хворымі, але сёньня нас хвалюе, што нашая будучыня залежыць ад людзей, якія незадаволеныя любымі рэформамі і зь дзіцячай наіўнасьцю вераць сучаснай уладзе. Якія настальгуюць па СССР, напэўна, забыўшыся на тое, як працавалі за мізэрныя грошы на заводах і за "палачкі" ў калгасах. Яны помняць і

*праця́г на бачыне 2*




## БЫВАЙ, ЛЕТА! ЗДАРОВА, ШКОЛА!

Вось і скончылася доўгачаканае лета. Адыходзяць у мінулае тры поўныя падзеяў ды прыгодаў шчасьлівыя месяцы адпачынку. Заплюшчваеш вочы і з сумам думаеш, як хутка праляцела гэтая цудоўная пара году. Наперадзе доўгія восень, зіма, вясна... Бывай, лета! Здарова, школа! Наперадзе новы навучальны год. Нас зь нецярпеньнем чакаюць бясконцыя "классные работы" ды ўлюбёныя настаўнікі, якія апрача нашага навучаньня будуць займацца справай, што абсалютна не ўваходзіць у іхнюю кампэтэнцыю – нашым выхаваньнем. Зноўку нехта будзе гуляць, а нехта ліхаманкава выконваць "дамашку", каб даць потым "скатаць" таму, хто гуляе...

Школа наша родная! Ты вабіш нас сваімі неверагодна ўтульнымі сьценамі, прыцягваеш нас, сваіх сыноў! Неўзабаве мы будзем з табой, о, школа!

На такой лірычнай ноце, бадай, і скончым. Зычым усім школьнікам моцнага здароўя, нязьменна вясёлага настрою, задавальняючых (добрых, выдатных) адзнакаў і літасьці да сваіх настаўнікаў – паверце, яны гэтаксама людзі!

*Рэдакцыя.*

# КЛЯСЫЧНЫ ПРАВАПІС

Дарагі чытач! Напісаць гэты артыкул мы мусім, каб ты яго прачытаў і каб не узьнікала аніякіх больш непаразуменьняў адносна таго правапісу, у якім напісана ўсё, што ты чытаеш у нашым выданьні. "Якіх непаразуменьняў?!" – спытаеш ты. Ну вось, прыкладам, як было нядаўна. Стаім мы (сябры рэдакцыі) на месцы аднае маладзёвае тусоўкі, якраз новы нумар прынесьлі, раздалі. Падыходзіць тут дзяўчыначка такая (з-за N-ай колькасьці кіляграмаў касмэтыкі ледзьве бачныя абрысы ейнага сапраўднага твару) і з выглядам экзамэнатара, пытаецца: "А чё эта вы каких-то твёрдых знаков в словах понаставляли? Хреново как-то читаетца!" Нам адразу стала вельмі шкада няшчасную дзяўчыначку – ня дзіўна, што ёй так цяжка чытаць, калі яна за ўсё сваё жыцьцё апрача "Курачкі-рабкі" ды "Один дома" нічога й не прачытала. І справа нават ня ў тым, што спрэчнае пытаньне адносна правапісу турбуе ўсё больш нашых чытачоў.

Людзі дасьведчаныя ведаюць, што існуе два віды правапісу беларускае мовы: "тарашкевіца" й "наркамаўка". У 1933 годзе Савет Народных камісараў зьдзейсьніў рэформу, паводле якой правапіс нашае мовы крыху "упростился". Было пастаноўлена не вылучаць мяккасьць на пісьме, гэта значыць, у некаторых словах не пісаць мяккі знак. Гэтаксама, у выніку гэтае рэформы з мэтаю "обогащения и сближения двух родственных языков" у беларускую мову трапіла мноства русіцызмаў, напрыклад: *дзяшовы, скора, мінута, прыемнага апетыту, поезд, пуць* ды інш. Праз гэтую рэформу нашая мова паступова пачала згубляць адну з сваіх самых характэрных адметнасьцяў.

Але шчырыя сьвядомыя беларусы данесьлі да нас праз дзесяцігодзьдзі сапраўдную, выпрабаваную жывую мову. Яе называюць "тарашкевіцаю" ад імя вялікага сына беларускага народу Браніслава Тарашкевіча – выдатнага мовазнаўцы, які ў свой час выдаў унівэрсальны падручнік па правілах мовы "Граматыка для школ".

Мы спадзяемся, дарагі чытач, што цяпер табе зразумела, чаму мы пішам у гэткім правапісе. Так што не хвалюйся, што мы "надта часта пішам мяккі знак" – не часьцей, чым трэба, павер!

*Рэдакцыя*

ўшаноўваюць Сталіна (ў выніку палітыкі якога савецкіх грамадзянаў было зьнішчана больш, чым падчас Вялікай Айчыннай), выносячы ягоны партрэт побач з партрэтам Лукашэнкі, на мітынгах у падтрымку апошняга... І гэтыя людзі маюць права голасу. Між тым, 16-17-гадовая моладзь, якая добра арыентуецца ў палітычным жыцьці краіны, гэтага права ня мае – непаўнагоднія. Паўстае пытаньне: ці ня лепей увесьці ўзроставы цэнз на права галасаваць? Чаму, калі дыскрымінуецца моладзь, не дыскрымінаваць і старых?!

***The ОРБ***

# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ МУСІЦЬ БЫЦЬ АДЗІНАЙ !

Сябры! Напісаць гэты артыкул мяне падштурхнула заклапочанасьць сучасным становішчам нашае беларускае моладзі. Моладзі, якой даводзіцца жыць на руінах камуністычнага таталітарызму, але, на жаль, ужо ў ланцугах новае лукашэнкаўскае дыктатуры. Моладзі, якой наканавана сказаць сваё слова на парозе тысячагодзьдзяў. Моладзі, якая шукае й прагне знайсьці – прагне знайсьці волю.

Кожны малады чалавек мае свае меркаваньні, здольнасьць разважаць і рабіць высновы, што адбіваецца на ягонай уласнай жыцьцёвай пазыцыі. Некаторыя дарослыя, сьцьвярджаючы, што ў падлеткаў жыцьцёвае пазыцыі проста яшчэ ня можа быць, вельмі памыляюцца – яна ёсьць, хаця й ня надта сталая і зь цягам часу мае ўласьцівасьць зьмяняцца. Маладыя жывуць паводле сваёй пазыцыі, горача адстойваючы яе перад дарослымі, якія часьцей за ўсё маладых не разумеюць. Мусіць, таму, што ня толькі не намагаюцца, але й ня здольныя іх зразумець. Гэта ўжо сталася амаль законам Прыроды.

Але чаму ж узьнікаюць непаразуменьні сярод самое моладзі? Безумоўна, на гэта ўплывае разнастайнасьць інтарэсаў і перакананьняў, якая заўжды панавала ў маладым грамадзтве. І гэта натуральна. Але ўражвае нежаданьне маладых знайсьці паразуменьне. Як і тыповая "саўковасьць", кшталту "калі ты доўгавалосы, значыць, табе трэба набіць морду" і да т.п.

Сябры! Можна поўнасьцю й не зразумець чалавека, але яго трэба паважаць. Хай то будзе мэталіст, панк, зацяты аматар футболу ці кампутару, рэпэр ці брэйкэр – трэба ставіцца адзін да аднаго з павагаю! Напрыклад, на Захадзе выдатна спалучаюцца самыя разнастайныя нефармальныя плыні. А што ж у нас?! Мы павінныя ўсьвядоміць – мы адзіная беларуская моладзь і жывем у нашай агульнай Беларусі. Досыць спрэчак і непаразуменьняў! Тады й жыць будзе цікавей.

**З.Лютаўскі**

# Сьмерць ад віруса КАМПУТАРОВАГА...



Сёньня ўжо немагчыма ўявіць сабе сучаснае грамадзтва без ЭВМ, але... у апошні час павялічваюцца асьцярогі, што кампутар з дапаможніка чалавека можа ператварыцца ў ягонага забойцу. І калі раней падобнае лічылася хутчэй выдумкай пісьменьнікаў-фантастаў, дык сёньня гэта можа стацца жахлівай рэальнасьцю.

Размова пойдзе аб кампутаровых вірусах – стварэньні чалавечых рук, якое здольнае зьнішчыць свайго стваральніка. У адрозьненьне ад сваіх матар'яльных аналягаў кампутаровыя вірусы нематар'яльныя і ўяўляюць сабою невялічкія па памерах праграмы, напісаныя прафэсійнымі праграмістамі. Для гэтых вірусаў не існуе межаў і геаграфічных працягласьцяў. Яны здольныя самастойна рухацца па кампутаровых сетках, маскавацца, памнажацца й прыносіць непапраўную шкоду, застаючыся нябачнымі для чалавека.

Адзін спэцыяліст па кампутаровых тэхналёгіях дзеля забавы прыдумаў кампутаровы вірус, памясьціў яго ў папулярную антывірусную праграму й адправіў яе шпацыраваць па электронных дошках абвестак. У выніку ягонага "жарту" загінулі дзеці. Вірус трапіў у кампутар для дзіцячых мэдычных установаў, дзе ў выніку гэтага сапсаваліся кампутаровыя сыстэмы дыягностыкі. Быў пастаўлены няправільны дыягназ. У дадзеным выпадку кампутаровы вірус стаўся ўскоснаю прычынай сьмерці, але гэтаксама можа быць і непасрэдным забойцам, як гэта здарылася ўва Францыі. Апэратар сканаў проста за экранам кампутара ад кровазьліцьця ў мозг. На першы погляд, перанапружваньне, няшчасны выпадак, але ў працэсе расьледваньня ўдалося высьветліць, што прычынаю сьмерці зьяўляецца кампутаровы вірус са злавесным апакаліптычным назовам "666" (ягоная даўжыня адпавядала 666 байтам), створаны адмыслова, каб забіваць.

На экране кампутара, гэтаксама, як і на кіна- й тэле-экране, кадры зьмяняюцца з заўсёднай частатой: 24 кадры ў сэкунду. Паводле сьцьвярджэньня спэцыялістаў, 666-ты выдае на экран 25 кадрам адмысловую каляровую камбінацыю, якая зьмяняе жыцьцядзейнасьць назіральніка. Падсьвядомае ўспрыманьне ўзораў, якія зьмяняюцца, прыводзіць да зьмяненьня дзейнасьці сэрца. Артэрыяльны ціск у малым коле перавароччаньня то рэзка ўзрастае, то рэзка падае. Ціск на сасуды галаўнога мозга павялічваецца, урэшце яны не вытрымліваюць.

Ніхто дагэтуль ня ведае, як удалося падабраць гэтую д'ябальскую камбінацыю колераў. Цалкам магчыма, што гэта зрабіў не чалавек. Рэч у тым, што некаторыя спэцыялісты лічаць кампутаровыя вірусы адной з формаў жыцьця. Хаця яны й ня маюць уласнага абмену рэчываў, але могуць паразітаваць на заражаным кампутары, прыстасоўвацца да антывірусных праграмаў, станавіцца неўспрымальнымі да іх, і, апрача таго, самастойна эвалюцыянаваць.

Людзі стварылі новую форму жыцьця паводле свайго аблічча й падабенства, прызначаную, на жаль, толькі для разбурэньня. Яна ўвабрала ў сябе, так бы мовіць, злую волю чалавека й цяпер помсьціць яму. Магчыма, што 666-ты зьявіўся ў працэсе самаразьвіцьця нейкага дагэтуль невядомага вірусу, а можа быць, яго напісаў праграміст-вар'ят. Як лічаць некаторыя экспэрты, 666-ты зьяўляецца амаль вяршыняю дасканаласьці. У ягоных 666 байтах рэалізаваныя ня толькі сыстэма паражэньня чалавека, але й мэханізм імгненнага размнажэньня. Калі такі вірус трапіць у кампутаровыя застаўкі, гэтак папулярныя сёньня на тэлевізіі, то наступствы іх паказу могуць стацца жахлівымі.

Зрэшты, напярэдадні XXI ст. чалавецтва падсьцерагае ня толькі пагроза нашэсьця кампутаровых вірусаў, але яшчэ й іншая праблема, таксама зьвязаная з ЭВМ - кампутаровы наркотык або віртуальная рэальнасьць. Віртуальная рэальнасьць – гэта ўсё, што можна ўбачыць на экране кампутара. Чым натуральней яна для чалавека, тым меней шанцаў адрозьніць яе ад сапраўднай і меней жаданьня пакінуць псэўдасусьвет мрояў. Зараз вядуцца распрацоўкі віртуальнай рэальнасьці новага ўзроўню, якая ў стане імітаваць чалавечыя мроі, і міжволі ўзьнікаюць сумненьні: ці зможа псыхіка здаровага чалавека супрацьстаяць спакушэньню застацца ў "ідэальным сьвеце" назаўсёды? Ці не загіне чалавецтва ад стварэньняў рук сваіх? Адказ на гэтае пытаньне нам ведаць ня дадзена...

**Гомельскае моладзевае выданьне «Ратуша»**

# Неўміручае мастацтва

12 жніўня ў Выставачнай залі рэчыцкага краязнаўчага музэю адкрылася выстава маладых мастакоў г. Рэчыцы. Вачам наведвальнікаў былі прадстаўленыя работы Дзьмітрыя Мустафіна, Руслана Аляксеенкі, Алы Рамазанавай, Вадзіма Стральчэні, Тацьцяны Мельнікавай і Галіны Мудабіравай. Убачыць творы маладых талентаў прыйшло даволі шмат аматараў мастацтва, асабліва моладзі. Творы вышэйзгаданых мастакоў адразу вылучаюцца сваёй неардынарнасьцю. Уражвае творчая разьняволеннасьць і фантазія, глыбокі філязофскі сьветапогляд, які памайстэрску адлюстраваны ў работах. Прыемна ўсьведамляць, што ў цяперашні цяжкі час, калі нашу краіну ўсё больш апаноўвае бездухоўнасьць, усёткі знаходзяцца людзі, якія маюць час, моц і жаданьне ствараць. Вялікі дзякуй ім за гэта!

*Ул. Інф.*







# Бацькаўшчына.

Пражыць на Бацькаўшчыне, зьведаць дух яе —
Вось тое, што належыць зьдзейсьніць мне.
Я буду жыць і памятаць заўжды
І пра пакуты, і пра жах вайны,
Як нашы продкі рукі ўзьняўшы ўвысь
Малілі Бога дзень яшчэ пражыць,
Каб дзеткам хлеба дзе знайсьці, каб зразумець,
Чаму адным усё на сьвеце можна мець,
А для другіх бяда ліхая — вось сястра...
То пан бязьлітасны пагоніць са двара,
То сына з мужам забяруць на сьмертны бой,
То быдлам назавуць, гідліва пнуць нагой
І папракнуць, што беларус, што недастойны жыць,
Што век павінен маскалю служыць.
Але наш дужы люд зь любоўю да зямлі,
Зь імкненьнем да свабоды, шчасьця і вясны,
Сваім магутным словам беды перамог,
Сваім вялікім сэрцам брату дапамог
І працай цяжкай узгадаваў свой край,
І будзе так заўжды няхай:
Пашана мове, што пакінулі дзяды —
Мы пранясем яе ў далонях скрозь вякі,
Ня згубім мы ні слова, будзем знаць,
Што трэба мову дзецям перадаць,
Каб дзеці ўнукам перадалі і далей.
Наш край зялёны будзе хай мілей,
Хай васільковыя лугі і леса скарб
З гадамі не губляюць сьпелых фарб,
У вышыні хай птушак шмат лунае,
Хай вецер на прасягах збожжа калыхае,
Жыве хай Беларусь мая сьвятая,
А зь ёй народ сьвяты няхай жыве!

*Ланя Беларуская.*

# "Галюциноген" - за экалёгію!




У нашым горадзе, дый ува ўсёй Беларусі мноства рок-гуртоў. Асабліва невядомых шырокай аўдыторыі, якія робяць рок не дзеля дасягненьня нейкіх камэрцыйных мэтаў (у адрозьненьне ад "Лепріконсов" і да т.п.), а выключна для сябе ды сяброў, атрымліваючы пры гэтым адмысловы кайф. Сёньня прапаноўваем Вашае ўвазе пачынаючы рэчыцкі гурт "Галюциноген". На пытаньні адказвае іхны вакаліст і добры сябра "Зялёнкі" Конь.

***- Конь, распавядзі, калі ласка, аб стварэньні вашага гурта.***

- Сьпярша хочацца павітаць чытачоў "Зялёнкі" ад імя ўсяго "Галюциногена". Вельмі добра, што ў нашым горадзе ёсьць людзі, якія займаюцца такой выдавецкай дзейнасьцю, і што пры дапамозе вашага выданьня пра наш гурт даведаецца яшчэ больш моладзі.

Усе ўдзельнікі гурта – добрыя сябры й былі знаёмыя яшчэ задоўга да ягонага ўтварэньня. Наш склад: **Сапарын Ігар "Стопарь"** (гітара), **Гапоненка Зьміцер "Гапон"** (гітара), **Гапоненка Максім "Макс"** (бас), **Філіпаў Аляксандар "Філіп"** (бубны) і, уласна, сьціплае месца вакаліста займаю я, **Раманюга Уладзімер "Конь"**. Упершыню ідэя граць разам прыйшла да нас мінулым летам. Ініцыятарам утварэньня гурта стаўся Стопарь. Мы былі поўныя творчых ідэяў і энэргіі, але адразу ж былі вымушаныя сутыкнуцца з шэрагам праблемаў, якія заўжды паўстаюць перад пачынаючымі калектывамі. Доўгі час у нас не было апаратуры й месца для рэпэтыцыяў, але мы ўпарта шукалі шляхі вырашэньня гэтых праблемаў. Між тым, не зважаючы на тое, што не было магчымасьцяў для паўнавартасных рэпэтыцыяў (дарэчы, іх і цяпер нямашака), да моманту, калі мы пачалі рэпэтаваць на гаражы бацькі Стопаря, у нас былі гатовыя ўжо 6-7 кампазыцыяў, напісаных пад "акустыку". Часам, калі некаторыя зь інструмэнтаў псаваліся, мы бралі ў часовае карыстаньне інструмэнты ў сваіх сяброў-музыкаў. Рэпэтаваць намагаліся як мага часьцей, ахвяруючы амаль усім сваім вольным часам. Гараж стаўся для нас "другім домам", мы нават песьню яму прысьвяцілі – так і называецца "Гараж".

***- Скажы, ці цяжка спалучаць творчую дзейнасьць з вучобаю, і як вам гэта ўдаецца?***

- Не сказаў бы, што лёгка, але калі ставіш перад сабой пэўную мэту зь цьвёрдым намерам яе дасягнуць, да ўсяго, калі табе падабаецца тое, што ты робіш, ты гэтай мэты дасягнеш абавязкова!

***- Асноўны цяжар напісаньня тэкстаў ускладзены на цябе. Яшчэ хто-небудзь з удзельнікаў піша словы да песень?***

- Так – Стопарь. Наагул, напісаньнем тэкстаў займаемся мы ўдвох, аднак, так атрымліваецца, што Стопарь больш аддае ўвагі музычнай частцы кампазыцыі, а я – тэкставай.

***- Тэксты – расейскамоўныя. Ці мяркуеце калі-некалі сьпяваць па-беларуску?***

Цалкам магчыма, што ў нашым рэпэртуары будуць нашамоўныя песьні. Але, час пакажа...

***- Ці ёсьць у вас якія-небудзь пэрспэктыўныя пляны на будучыню, ну, напрыклад, выступаць на "вялікай сцэне"?***

-...(Сьмяецца)...Ведаеш, мы сабраліся разам, каб "джэмаваць" для сябе, для сваіх сяброў і атрымліваць задавальненьне. Лічу, што нам і так няблага. Праўда, не перашкодзіла б, канешне, прыдбаць апаратурку паякасьней ды месца для рэпэтыцыяў новае... Хаця ад гаража ў нас засталіся ўражаньні, на якія немагчыма забыцца. Ну што можа быць лепей, чым халодным зімнім надвячоркам (у ня менш халодным гаражы) з бутэлькай сьвежага "Рэчыцкага" у руцэ тусавацца з добрымі сябрамі? Менавіта ў такія моманты прыходзіць муза. А што тая "вялікая сцэна"?.. На дадзены момант Стопарь знаходзіцца у войску, але мы будзем працягваць граць, ствараць новае, чакаючы яго.

***- У сваіх песьнях вы кранаеце розныя сацыяльныя праблемы, але сама ўдала ў вас атрымаўся пратэст супраць забруджваньня навакольнага асяродзьдзя! Ці ня так?***

- Сапраўды, у песьні "Грин пис", прысьвечанай экалягічнай праблеме нашай Радзімы, так і пяецца: "Я ненавижу мусор!".

***- Пакруцей за «бэтэшныя» пародыі на рэкляму атрымалася!***

- Не кажы...

***- Ну што ж, вялікі дзякуй табе за інтэрвію! Удачы вам!***

Гэта табе дзякуй! Пакуль!

*Гутарыў* ***З.Лютаўскі***

P.S. ***Варта дадаць, што перад самым адыходам Стопаря ў войска "Галюциноген" зьдзейсьніў свой першы запіс пад назвай "Спасибо!". Віншуем!***

# Абвесткі

Усе аматары экстрэмальнае музыкі: ад хард-кору да брутал дэзу, ад gothic-doom да альтэрнатыўнага року, ад heavy metal да старога добрага панку – аб'ядноўваемася ў Fun metal music club **"MUDDY REFLECTIONS"**. Гэта дазволіць нам абменьвацца цікаваю інфармацыяй, атрыбутыкай, рэдкімі запісамі, а галоўнае – задзіночыць людзей пэўных поглядаў і музычных густаў.

***Кантакты:*** 2-79-09 (Войтаў Ягор),
ці па тэл. рэдакцыі "Зялёнкі" 2-63-36 (акрамя суботы й нядзелі).

***Шаноўныя чытачы! Некаторыя з папярэдніх нумароў нашага выданьня распаўсюджваліся анкэты клюба "MUDDY REFLECTIONS". Запоўненыя анкэты просім вяртаць па нашай адрэсе ці перадаваць пры сустрэчы сябрам рэдакцыі.***

❖❖❖ ❖❖❖ ❖❖❖

Ільіч!!! Віншуем цябе з Днём народзінаў! Няхай у тваім жыцьці будзе мноства літраў смачнага рэчыцкага піва!
Сябры

# Показкі

-Доктар, мне ўжо восемдзесят гадоў, а я ўсё яшчэ за дзеўкамі бегаю...
-Дык гэта ж вельмі добра!
-Так, але я не памятаю, навошта.

*** *** ***

Тэлефануе бабка ў аварыйную службу горгаза:
-Я яшчэ раніцай уключыла газавую пліту, а яна ўсё не гарыць...
-А вы запалку не забыліся падпаліць?!
-Ой, унучак, дзякуй, што нагадаў – зараз падпалю!..

*** *** ***

-Мадам, вы танчыце?
-Не.
-Тады ня будзем губляць часу!

*** *** ***

Старая камуналка. У кухні за сталом моўчкі сядзяць заяц і цешча, сумуюць. Раптам заяц кажа:
-Цешча, хочаш кавы?
-Хачу!
-Дык вазьмі і згатуй!
-Дык яна скончылася яшчэ на мінулым тыдні!
-Дык сядзі й не выкалёбвайся!!!

Увага!
**Рэдакцыя "Зялёнкі" працягвае прымаць ад вас абвесткі, пажаданьні ды віншаваньні.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена ТТК
Анэт ГЕНАДЗЕЎНА
Дзядзька ПАСТАР
Зьміцер ЛЮТАЎСКІ
Алесь ЦЮЦЮНІК

Рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць пададзенае інфармацыі і ксэракопіі асобнікаў, можа не падзяляць меркаваньняў аўтараў.

**Адрэса для допісаў:**
247500 г. Рэчыца, вул. Леніна 68

Зялёнка
Незалежнае маладзёвае выданьне
№ 5 верасень 2000
*Выдаецца накладам 299 ас.*

ВЫКАЗВАЕМ ВЯЛІКУЮ ПАДЗЯКУ АБ'ЯДНАНЬНЮ «ГРАМАДЗЯНСКІЯ ІНІЦЫЯТЫВЫ» ЗА ДАПАМОГУ Ў СТВАРЭНЬНІ ГАЗЭТЫ